ten years on the edge
VERTIGO X

# FABLES

STORYBOOK LOVE 2

issue 15 sep 03
2.50 can 4.25

BILL WILLINGHAM
MARK BUCKINGHAM
STEVE LEIALOHA

SUGGESTED FOR MATURE READERS




COMICS .BY
КОМІКСЫ ПА-БЕЛАРУСКУ

ПАДАННІ #15
ПЕРАКЛАД:
АРТУР БАРАДАЧОЎ
АФАРМЛЕННЕ:
COMICSBY
COMICSBY.BY
VK.COM/COMICS_BY

ПАДАННІ СТВОРАНЫ **Б. УІЛІНГХЭМАМ**

# FABLES

ПЕРАКЛАД
НА БЕЛАРУСКУЮ МОВУ:
**АРТУР БАРАДАЧОЎ**

АФАРМЛЕННЕ:
**СЯРГЕЙ
КОЗЫРАЎ**

# 3



























НЕ ТРЫНДОЛІШ? ЯНЫ ЗБЕГЛІ **РАЗАМ**? БЕЛАСНЕЖКА І ШЭРЫФ?

АГАСЬ. ЗАЎЧОРА. ЗНЯНАЦКУ.

ЗРАЗУМЕЛА, Я ЧУЎ, ШТО ЯНЫ БЫЛІ... ТЫ ВЕДАЕШ... ЯНЫ ЎПОТАЙ КЛОСЬЦЯЦЦА, ЦЯПЕР УЖО БОЛЬШ ЗА ГОД, АЛЕ...

ТАК, З ТАГО ЧАСУ, ЯК ЯНА ПАКІНУЛА БАЛЬНІЦУ.

LAUNDROMAT

НЕ, НАВАТ ДА ГЭТАГА. З ДНЯ ПАМЯЦІ... НЕ АПОШНЯГА, А ПАЗАЛЕТАСЬ... КАЛІ РУЖА ЧЫРВАНЬ АПЫНУЛАСЯ НЯ МЁРТВАЯ.

Я ЧУЎ, ЯНЫ **ЗБЕГЛІ, КАБ УПОТАЙ АЖАНІЦЦА**.

Я **АМАЛЬ** МАГУ ЗРАЗУМЕЦЬ БОЗЛІ, ЁН АДДАЎСЯ СВАІМ ЖЫВЁЛЬНЫМ ІМКНЕННЯМ, АЛЕ СПАДАРЫНЯ СНЕЖКА? ЯНА Ж ТАКАЯ **ЛЕДЗЯНАЯ**.

МАРОЖАНКА? НЯМ.

ЖАРТУЕШ? ЯНА **ШЫКОЎНАЯ**.

Я Б ПРАДАЎ СВАЮ **ДУШУ** ЗА НОЧ З ЁЙ.

АКЕЙ, МАБЫЦЬ НЕ **СВАЮ** ДУШУ, АЛЕ Б **ТВАЮ** ПРАДАЎ БЫ БЕЗУМОЎНА.

ЯШЧЭ ХТО-НЕБУДЗЬ ГАЛОДНЫ?

І ХОЦЬ У ФЭЙБЛТАЎНЕ ДЗЕНЬ
У САМЫМ РАЗГАРЫ,
НА ЗАХАДЗЕ ЯШЧЭ РАНІЦА.

# У лес

*Сцэнар:* ***Біл Уілінгхэм***
*Аловак:* ***Марк Букінгем***
*Туш:* ***Сціў Лэйалоа***
*Ілюстрацыя:* ***Браян Талбат***




*Колер і сепарыраванне:* ***Даніэль Возо***
*Вокладка:* ***Джэймс Джын***
*Ас. рэдактара:* ***Марыя Хохнэр***
*Рэдактар:* ***Шэлі Бонд***

*Паданні створаны* ***Б. Уілінгхэмам***
*Пераклад на беларускую:* ***Артур Барадачоў***
*Афармленне:* ***Сяргей Козыраў***


ЭММM?


ЯКОГА
ЛЯСУНА?




ШТО ТЫ РОБІШ, БОЗЛІ?

WHUP WHUP WHUP

ЧАС ПРАЧЫНАЦЦА, БЕЛА, У НАС **ПРАБЛЕМЫ**.

ПАПІСЯЙ, ПАМЫЙСЯ І АПРАНАЙСЯ... **ШТО Б** ТЫ ТАМ НЕ АБВЫКЛА РАБІЦЬ РАНІЦАЙ. НАМ ТРЭБА ВЫХОДЗІЦЬ, **НЕАДКЛАДНА**.







У гэты самы момант, на іншым канцы кантынента...
Расступіцеся, я па службовым справам Фэйблтаўна.
Я папярэджваю вас. Чаму вы не адказваеце мне?
А божа, вы ня казачныя!
Вы звычайныя пацукі!

Я ЎВАЖЛІВА АГЛЕДЗІЎ УСЕ НАШЫ РЭЧЫ, ПЕРАД ТЫМ, ЯК РАЗБУДЗІЦЬ ЦЯБЕ.

У НАС АБОДВУХ ЁСЦЬ ПАГАШАНЫЯ КАРАШКІ БІЛЕТАЎ НА САМАЛЁТ НЬЮ-ЁРК – СІЭТЛ У АДЗІН БОК, ТАКІМ ЧЫНАМ Я ЛІЧУ, ШТО МЫ ДЗЕСЬЦІ Ў КАСКАДНЫХ ГОРАХ... АЛЕ ГЭТА МОГУЦЬ БЫЦЬ І АЛІМПІЙСКІЯ ГОРЫ.

УСЁ НАША НАЧЫНЕННЕ НОВАЕ І БЫЛА КУПЛЕНА Ў КРАМЕ Ў СІЭТЛЕ ПАД НАЗВАЙ «НАЧЫНЕННЕ ДЛЯ АДПАЧЫНКУ». НАША АДЗЕЖА ТАКСАМА.

ДЫК ШТО, МЫ ПРЫЛЯЦЕЛІ СЮДЫ, НЕ ЎЗЯЛІ З САБОЙ НІЧОГА... НІЯКАГА БАГАЖУ... І ВЫРАШЫЛІ ДЗЕЛЯ ЗАБАЎКІ ПАЙСЦІ Ў ПАХОД?

**РАЗАМ?**

ЗДАЕЦЦА, ШТО ТАК.

ГЭТА АБСУРД! Я Б **НІКОЛІ** ТАКОГА НЕ ЗРАБІЛА!

ЗРАЗУМЕЛА, ШТО НЕ. АЛЕ МЫ, ВІДАВОЧНА, БЫЛІ Ў НЕЙКІМ ТРАНСЕ... ПАД ЧАРАМІ, ЯКІЯ ПРЫМУСІЛІ НАС НАКІРАВАЦЦА СЮДЫ І ГУЛЯЦЬ У РЭЙНДЖАРА РЫКА*.

*РЭЙНДЖАР РЫК (RANGER RICK) – ПЕРЫЯДЫЧНЫ АМЕРЫКАНСКІ ЧАСОПІС ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ, ЯКІ ПАВЕДАМЛЯЕ ПРА ДЗІКУЮ ПРЫРОДУ Ў РОЗНЫХ ЯЕ ПРАЯВАХ.

АЛЕ, ПАЧЫНАЮЧЫ З ГЭТАГА МОМАНТУ, МЫ З ГЭТЫМ СКОНЧЫЛІ, БЕЛА.

ПАКІНЕМ ГЭТЫЯ РЭЧЫ. МАБЫЦЬ НАМ ТРОХІ ПАШАНЦУЕ, І ТОЙ, ХТО САЧЫЦЬ ЗА НАМІ, ВЫРАШЫЦЬ, ШТО МЫ ПРОСТА ПАЙШЛІ ПАГУЛЯЦЬ, І ХУТКА ВЕРНЕМСЯ.

І КУДЫ ГЭТА МЫ **ІДЗЕМ**?

У ТВАІХ РЭЧАХ Я ЗНАЙШОЎ КЛЮЧЫ АД ПРАКАТНАЙ МАШЫНЫ. ЯНА ПРЫПАРКАВАНА ДЗЕСЬЦІ ПАБЛІЗУ.

ЯК ТЫ МОЖАШ БЫЦЬ УПЭЎНЕНЫ Ў ГЭТЫМ?

ТАМУ ШТО ТЫ ЎСЁ ЯШЧЭ НЯ МОЖАШ **ІСЦІ** ДАСТАТКОВА ХУТКА.

І НАВАТ У ТРАНСЕ МЫ Б НЕ ЗМАГЛІ ПАНЕСЦІ ЎСЁ ГЭТА РЫЗЗЁ ВЕЛЬМІ ДАЛЁКА АД НАШАГА ТРАНСПАРТА.

НУ І ХТО НАЛАЖЫЎ НА НАС ЗАКЛІНАННЕ?

НЯ МЕЮ НІВОДНАЙ ДУМКІ. АЛЕ ЎСЕ ІНСТЫНКТЫ КАЖУЦЬ МНЕ, ШТО ЗА ЎСІМ ГЭТЫМ СТАІЦЬДЖЭК.

КАЛІ ТАК, ГЭТА, ХУТЧЭЙ ЗА ЎСЁ, ТОЛЬКІ АДЗІН З ЯГО РОЗЫГРЫШАЎ І НІЧОГА САПРАЎДЫ НЕБЯСПЕЧНАГА НЯМА.

ТАДЫ ЧАМУ МЫ ЗНЯНАЦКУ ЗБЯГАЕМ У ПАНІЦЫ?

НА ВЫПАДАК, КАЛІ ГЭТА НЕ БЯЗКРЫЎДНЫ РОЗЫГРЫШ.

У гэты час...

Буфкін знайшоў гэтых дваіх у кіраўніцтве справамі.

А гэтага падабралі на даху, у пентхаўсе мэра.

Я загадаў Грымблу, Буфкіну і Мухалову пашукаць, ці ёсць у будынку яшчэ такія.

Што ўвогуле мышыная паліцыя **робіць** тут, па-за Фермай.

Я ня ведаю, яны пакуль нічога **ня** кажуць.

Напэўна, гэта нейкая **сезонная** навала грызуноў?

Відавочна гэта патрабуе **неадкладнага** расследавання.

Якраз так і сказаў Кароль Коль. Але бозлі і белы няма...

Я займуся гэтым.

ЧАМУ ТЫ? ДЛЯ ГЭТАЙ СПРАВЫ ПАТРЭБНЫ ХТОСЬЦІ З ДАВЕДЗЕНЫМ СТАТУСАМ У ГРАМАДСТВЕ...

...ХТОСЬЦІ, ХТО ЎЛАЖЫЎ ШМАТ У НАШ ДАЎГАЧАСОВЫ РОСКВІТ.

НАЎРАД ГЭТА ТАЯ ПРАЦА, ЯКУЮ МЫ МОЖАМ ДАРУЧЫЦЬ ТОЛЬКІ ШТО ПРЫБЫЛАМУ ПРАСТАЧЫНЕ.

ТАК, ПАЧАКАЙ ХВІЛІНКУ, СІНЕБАРОД, МЫ МОЖАМ АСПРЭЧЫЦЬ МАЕ ІНШЫЯ ЗАСЛУГІ, АЛЕ **Я** ЗНОЎ ПРЫНЦ.

Я ВЫКУПІЎ СВОЙ ТЫТУЛ У ДЖЭКА, НА НАСТУПНЫ ДЗЕНЬ, ПАСЛЯ ТАГО, ЯК ЁН ВЫЙГРАЎ АНЛАЙН-АЎКЦЫЁН.

SNOW WHITE
—DIRECTOR OF OPERATIONS—

АДНАК...

МАБЫЦЬ ТЭХНІЧНА ГЭТА І ПРАЎДА, АЛЕ КАЛІ ТЫТУЛ УЖО АДНОЙЧЫ КУПІЛІ І ПРАДАЛІ НЕКАЛЬКІ РАЗОЎ, ЯК НЕЙКІ ТАВАР, ТО ЁН СТРАЧВАЕ СВОЙ СТАТУС.

ЭМММ... ХАЙ БУДЗЕ ТАК, ТАМУ ШТО РАССЛЕДАВАННЕ ЎКЛЮЧАЕ ЦЕСНАЕ СУПРАЦОЎНІЦТВА З ФЕРМАЙ, І ПАКОЛЬКІ ВЫДАТНЫ ПРЫНЦ З ПОСПЕХАМ ПРАВЁЎ ТАМ ПРАЦЭС ПА ВАЙСКОВЫХ ЗЛАЧЫНСТВАХ, КАРОЛЬ КОЛЬ ЖАДАЕ, КАБ ГЭТЫМ ЗАЙМАЎСЯ ПРЫНЦ.

ГЭТА **СУР'ЁЗНАЯ** ПАМЫЛКА. ЁН ВАС ПАДВЯДЗЕ. РАНА ЦІ ПОЗНА ЁН **УСІХ** ПАДВОДЗІЦЬ.

НУ ВОСЬ
І ЯНА.

НАРЭШЦЕ. МАЕ **НОГІ** ЎЖО АМАЛЬ **САСЛАБЛІ**. МНЕ ТРЭБА АДПАЧЫЦЬ.













ПРАКОЛ!
BLAM!


ТРЫМАЙСЯ!


БОЖА!
БОЖА!
БОЖА!
ТРЫМАЙСЯ, БЕЛА! ТЫ ЯШЧЭ МОЖАШ ВЫРАТАВАЦЬ НАС, КАЛІ ЗМОЖАШ УТРЫМАЦЬ КАНТРОЛЬ НАД МАШЫНАЙ!


ТЫ МОЖАШ!

У ЦЯБЕ ДОБРА АТРЫМЛІВАЕЦЦА! МЫ **ЯШЧЭ** МОЖАМ ВЫБРАЦЦА! ЦАЛЯЙ **У ГУСТЫЯ ЗАРАСНІКІ**!

СПРАБУЙ НЕ ЎРЭЗАЦЦА Ў ДРЭВЫ Ў ЛОБ, АЛЕ СКАРЫСТОЎВАЙ КАНТАКТ З ІМІ, КАБ **ЗАПАВОЛІЦЬ** НАС!

УСЁ АТРЫМАЛАСЯ!

МІЛКА,
Я ДОМА.

НЕ ЎСТАВАЙ, МНЕ ТРЭБА ПАПРАЦАВАЦЬ У МАІМ КАБІНЕЦЕ.

**УСЁ ЯШЧЭ** ЗАБАЎНА, КАЛІ ТЫ КАЖАШ ГЭТА.

МНЕ НЕ ПАДАБАЕЦЦА, ШТО Ў ЦЯБЕ ЁСЦЬ ПАТАЕМНЫ **ЗАЧЫНЕНЫ КАБІНЕТ** У МАЁЙ КВАТЭРЫ. Я НЯ ПАМЯТАЮ, КАБ Я ЗГАДЖАЛАСЯ НА ТОЕ, КАБ ДАЗВОЛІЦЬ ТАБЕ МЕЦЬ ТУТ ДАДАТКОВЫ ПАКОЙ, КАЛІ ДАЗВОЛІЛА ТАБЕ ЎЕХАЦЬ.

МАЯ ДАБРАЧЫННАСЦЬ У АДНОСІНАХ ДА ВАЛАЧАШЧЫХ БЫЛЫХ МУЖЫКОЎ МАЕ СВАЕ **МЕЖЫ**.

ЛЕДЗЬ ПАЗНЕЙ, ЦЕРНІ, ДАРАЖЭНЬКАЯ, ДЖЭНТЛЬМЭНУ ТРЭБА ЯГО **АСАБОВАЯ ПРАСТОРА**.

Я БУДУ ПАЗНЕЙ, КАБ ВЫКАНАЦЬ УСЕ ТВАЕ ЗАГАДЫ, ПРЫНЦЭСА.

SLAM


ЦЯПЕР, КАЛІ МЫЎДАЛЕЧЫНІ АД ДАПЫТЛІВЫХ ВАЧЭЙ І ВУШЭЙ, МАБЫЦЬ ВЫ ТРОЕ РАСТЛУМАЧЫЦЕ, ЧАМУ ВЫ БЫЛІ НАСТОЛЬКІ НЯСПРЫТНЫМІ, ШТО ВАС **ЗЛАВІЛІ**.
ГЭТА НЯ НАША **ВІНА**, ВЫДАТНЫ ПРЫНЦ.
ВЫ НЕ ПРЫВЕЗЛІ ДАСТАТКОВА НАШЫХ, КАБ МЫ ЗМАГЛІ САБРАЦЬ УСЮ ІНФАРМАЦЫЮ, ЯКАЯ ВАМ ПАТРЭБНА. МЫ **ВЕЛЬМІ ШМАТ ПРАЦАВАЛІ**.


МЫ ВЫМУШАНЫ БЫЛІ **РЫЗЫКАВАЦЬ**, КАБ УЛА-ЖЫЦЦА Ў ГРАФІК.
МОЖАЦЕ РАЗМАЎЛЯЦЬ **ГРАМ-ЧЭЙ**? Я ЛЕДЗЬ **ЧУЮ** ВАС. ШТО ЗДАРЫ-ЛАСЯ З СЯРЖАНТАМ ВІЛФРЭДАМ?


ЁН НЕ РАПАРТАВАЎ УЖО НЕКАЛЬКІ **ДЗЁН**. Я ПАЧЫНАЮ **ТУРБАВАЦЦА**.
Я НЕ. ЁН І КАПРАЛ РЭКС АДНЫ З ЛЕПШЫХ СЯРОД НАС.
ВЫ ТРОЕ, АДПАЧНІЦЕ. НІЯКІХ ЗАДАННЯЎ НЕКАТОРЫ ЧАС. НАМ ТРЭБА ПРЫКРЫЦЬ ДЗЕЙНАСЦЬ, ЦЯПЕР, КАЛІ ЯНЫ НАС АДШУКАЛІ.
МНЕ ТРЭБА АБДУМАЦЬ НАШ НАСТУПНЫ КРОК.



БЕЛА?
БЕЛА, ТЫ Ў ПА-РАДКУ?
АЧУЙСЯ.
МЫ ЖЫВЫЯ?
БОЛЬШ ЦІ МЕНШ. НАМ ПАШАНЦАВА-ЛА. ЗДАЕЦЦА, ШТО МАШЫНА ПРЫНЯЛА НА СЯБЕ БОЛЬШУЮ ЧАСТКУ ЎДАРУ.
ПАШАНЦАВАЛА, ЧОРТ. ДЗЯКУЙ ЗВЫЧАЙНЫМ І ІХ ЦУДОЎНАЙ КАНСТРУКТАРСКАЙ ДУМЦЫ. МАШЫНЫ ЗАРАЗ РОБЯЦЬ ТАК, КАБ ЯНЫ ПРЫМАЛІ НА СЯБЕ ЎСЕ ПАШКОДЖАННІ.
ПРЫНАМСІ Я, ЗДАЕЦЦА, ЦЭЛАЯ.
Я ТАКСАМА, АКРАМЯ **ГЭТАГА**.
О БОЖА. ГЭТА **ДРЭННЫ** ПЕРА-ЛОМ? ЁН
УСЁ БУДЗЕ **ДОБРА** ЗА СЕКУНДУ.
ЁН ВЫЛЕЧЫЦЦА, ЯК ТОЛЬКІ ПЕРАТВАРУСЯ Ў ВАЎКА... КАЛІ ПЕРАД ГЭТЫМ УПРАВІЦЬ КОСТКУ.
МНЕ ПАТРЭБНА ТВАЯ ДАПА-МОГА.

ПАДРЫХТУЙСЯ. ГЭТА НЯ БУДЗЕ ФАЙНА, БЕЛА, АЛЕ ТАБЕ ТРЭБА СТАЦЬ БЯЗЛІТАСНАЙ ДА ЎСЯГО, АКРАМЯ ТАГО, ШТО ТРЭБА ЗРАБІЦЬ СПРАВУ ДА КАНЦА.

ЦЯГНІ МОЦНА. КАЛІ ЛАСКА, НЯ ТОРГАЙ, І ЯК ТОЛЬКІ ПАЧНЕШ, НЕ СПЫНЯЙСЯ, ПАКУЛЬ КОСТКА НЕ ЎСТАНЕ НА МЕСЦА. НАВАТ КАЛІ Я БУДУ ГАЛАСІЦЬ ЯК РЭЗАНЫ. Я, ПРЫНАМСІ, ПАСПРАБУЮ НЯ КІДАЦЦА.

ГАТОВА?

ЛІЧУ, ШТО ТАК.

АУУУУУУУ!

ЛІЧУ, ШТО ЎСЁ. МОЖАШ АДПУСЦІЦЬ.

ДЗЯКУЙ.

ДАЙ МНЕ ТРОХІ АДПАЧЫЦЬ, ПОТЫМ ПОЙДЗЕМ.

АЛЕ ТЫ МОЦНА ПАРАНЕНЫ. НАМ ДОЎГА НЯ ВАРТА НІКУДЫ ІСЦІ.

І ЎСЁ РОЎНА МЫ **ВЫМУШАНЫ**. НАМ ТРЭБА ЯК МАГА ДАЛЕЙ АДАРВАЦЦА АД СТРАЛКА.

**ЯКОГА** СТРАЛКА?

МЫ ЗЛЯЦЕЛІ СА СКАЛЫ НЯ ПРОСТА З-ЗА ПРАКОЛАТАЙ ШЫНЫ. БЫЎ СТРЭЛ, АЛЕ ГУК З'ЯВІЎСЯ ПАСЛЯ ПРАКОЛУ.

БЕЗУМОЎНА, ТЫ НЕ МАГЛА ЯГО ПАЧУЦЬ З-ЗА СВАЙГО **КРЫКУ** Ў ГЭТЫ МОМАНТ. МАЕ Ж ВУШЫ БОЛЬШ ЧУЛЛІВЫЯ.

НА САМОЙ СПРАВЕ, ПАЕЗДКА СА СКАЛЫ ЎНІЗ НАМ КРЫХУ **ДАПАМАГЛА**. ЯНА ХУТКА СХАВАЛА НАС АД **ЗОНЫ ПАПАДАННЯ**... ВЫРАТАВАЛА НАС АД ДРУГОГА СТРЭЛУ.

АЛЕ ЎЖО НЕКАТОРЫ ЧАС, ЁН... **КІМ БЫ** ЁН НЯ БЫЎ... РУХАЎСЯ НАЗАД У НАШЫМ НАКІРУНКУ.

ТАКІМ ЧЫНАМ ТРЭБА РУХАЦЦА ХУТКА, ЯК ТОЛЬКІ Я ПЕРАТВАРУСЯ Ў ВАЎКА. УНАЧЫ ЦІ ЎДЗЕНЬ, Я МАГУ ХУТКА ПРАБЕГЧЫ ШМАТ МІЛЬ З ПАСАЖЫРАМ НА СПІНЕ.

А ЗАРАЗ ДАПАМАЖЫ МНЕ РАСПРАНУЦЦА. ТАБЕ, РАЗАМ СА СВАІМІ РЭЧАМІ, ТРЭБА БУДЗЕ НЕСЦІ ТОЕ, ШТО ЗАСТАНЕЦЦА АД МАЁЙ АДЗЕЖЫ, КАЛІ ТЫ ЖАДАЕШ, КАБ МНЕ БЫЛО ШТО АПРАНУЦЬ ПАСЛЯ ТАГО, ЯК Я ПЕРАТВАРУСЯ НАЗАД.


УХ ТЫ!
ТРЫМАЙСЯ МОЦНА, БЕЛА. ТЫ НІЯКІМ ЧЫНАМ НЯ МОЖАШ МНЕ ПАШКОДЗІЦЬ.

АЛЁ?

ТАК, ДОБРЫЯ НАВІНЫ. ПРАЦА, НАРЭШЦЕ, ЗРОБЛЕНА. Я СКІНУЛА ІХ МАШЫНУ СА СКАЛЫ ДЗВЕ ГАДЗІНЫ ТАМУ.

НЕ, Я НЕ МАГЛА НЯ ДАЦЬ ІМ ДАБРАЦЦА ДА МАШЫНЫ. Я ПАТРАПІЛА ДВА МАРКІТАВАНЫЯ ДНІ, КАБ ЗНАЙСЦІ КАГО-НЕБУДЗЬ, ХТО ЗМОГ ПРАДАЦЬ МНЕ ГАРМАТУ БЕЗ МАРКІТАВАНАГА ТРОХДЗЁННАГА ТЭРМІНУ ЧАКАННЯ.

СЁННЯ Я ДАБРАЛАСЯ ДА ІХ ЛАГЕРУ, АЛЕ ЯНЫ ЎЖО ПАКІНУЛІ ЯГО.

НУ, ГЭТА НЕ МАЯ ВІНА, КАЛІ Б ТЫ СКАРЫСТАЎ БОЛЬШ ДАЎГАДЗЕЙНАЕ **ЗАКЛІНАННЕ**, ЯНЫ Б ЯШЧЭ БЫЛІ ТАМ, ЧАКАЮЧЫ ПАКУЛЬ Я ЎВАЙДУ І ЗАСТРЭЛЮ ІХ АМАЛЬ ВА ЎПОР.

ТАК, Я СПУШЧУСЯ ДА МЕСЦА, ДЗЕ ЯНЫ РАЗБІЛІСЯ, КАБ ПЕРАКАНАЦЦА, ШТО ЯНЫ МЁРТВЫЯ. Я ЎЖО **ЗАЙМАЛАСЯ** ГЭТЫМ, КАЛІ ТЫ ПАТЭЛЕФАНАВАЎ.

ЗАРАЗ **ПАВЕСЬ** ТРУБКУ І ДАЙ МНЕ ЗРАБІЦЬ СВАЮ ПРАЦУ.



ВОХ, БОЖАЧКІ!

ЦІШЭЙ. МНЕ ТРЭБА ПАСПАЦЬ НЕКАЛЬКІ ГАДЗІН, ПАКУЛЬ УСЁ ЯШЧЭ ДАСТАТКОВА ЦЁМНА, КАБ СХАВАЦЬ НАС. ТЫ ТАКСАМА ПАСПІ.

АЛЕ Я ТОЛЬКІ ШТО ШТОСЬЦІ ЗРАЗУМЕЛА, ВОЎК. БЫЛА ТОЛЬКІ АДНА ПАЛАТКА І АДЗІН СПАЛЬНЫ МЯШОК.

І ШТО?

МЫ **СПАЛІ** РАЗАМ?

НЯ ДУМАЮ, ШТО Я ЎВОГУЛЕ СПАЎ У ПАЛАТЦЫ. Я ЎБАЧЫЎ НЕКАЛЬКІ ЛАНЦУЖКОЎ ВОЎЧЫХ СЛЯДОЎ КАЛЯ ЛАГЕРА... ЯКРАЗ МОЙ ПАМЕР ЛАПЫ.

МЯРКУЮЧЫ ПА ЎСЯМУ ГЭТАМУ, Я ПРЫМАЎ ВАЎЧЫНУЮ ФОРМУ І БЕГАЎ ДЗІКІМ... МАГЧЫМА НАВАТ І ДЗІКІМ У СНЕ. ХАЙ ГЭТА НЕ ХВАЛЮЕ ЦЯБЕ, ПРЫНЦЭСА, У НАС ЗАРАЗ ЁСЦЬ ІНШЫЯ РЭЧЫ, ПРА ЯКІЯ ВАРТА ТУРБАВАЦЦА.

ГЭТА НЕ **МАЯ** ВІНА, КАЛІ Я ВЕЛЬМІ ХВАЛЮЮСЯ ПРА ТОЕ, ШТО МАГЛО АДБЫЦЦА ПАМІЖ НАМІ ПАД ГЭТЫМ ЗАКЛІНАННЕМ. ТЫ **ПРЫЧЫНА** ГЭТАМУ.

ГЭТА **ТЫ** ПРЫЗНАЎСЯ Ў **ЦЯГЕ** ДА МЯНЕ.

ПАСЛЯ ТАГО ТЫ **ХУТКА** МЯНЕ НЕ ПРЫЗНАЛА. ЦЯПЕР МЫ МОЖАМ КРЫХУ ПАСПАЦЬ?

ЧАМУ?

ТАМУ ШТО Я СТАМІЎСЯ, І ЗАЎТРА НАС ЧАКАЕ ДОЎГІ ШЛЯХ.

НЕ, Я МЕЛА НА ЎВАЗЕ, ЧАМУ **Я**? АДКУЛЬ ТАКАЯ ЦІКАВАСЦЬ?

**І ВОСЬ** ЗНЯНАЦКУ Ў ЦЯБЕ З'ЯВІЎСЯ НАСТРОЙ ПАГУТАРЫЦЬ ПРА ГЭТА? ТВОЙ ВЫБАР ЧАСУ **МЯНЕ ЗДЗІЎЛЯЕ**.

Я НЕ МАГУ СПАЦЬ. МНЕ ЗДАЕЦЦА, ШТО Я ЎСЁ ЯШЧЭ НЯРВУЮСЯ ПАСЛЯ СЁННЯШНІХ ПАДЗЕЙ. ДЫК **ЧАМУ** ПАСЛЯ ГЭТУЛЬКІХ СОТНЯЎ ГАДОЎ ЦЯБЕ ЗНЯНАЦКУ **ПАЦЯГНУЛА** ДА МЯНЕ?

НЕ ЗНЯНАЦКУ. Я ДЗЕЙНІЧАЮ ІМПУЛЬСІЎНА. ТАБЕ Б УЖО ВАРТА ГЭТА ВЕДАЦЬ.

ТЫ АДХІЛЯЕШСЯ.

НЕ, Я АДКАЗВАЮ НА ТВАЁ ПЫТАННЕ, АЛЕ НА СВОЙ ЛАД. ЗАРАЗ ПАМАЎЧЫ, КАЛІ ЖАДАЕШ ПАЧУЦЬ ГЭТА.

ДАЛЕЙ: КАЗКА ВОЎКА